# МІНСКАЯ ПРАЎДА

Газета заснавана 1 лістапада 1950 года | Аўторак, 1 лістапада 1994 года | № 117 (10817) | Цана 30 руб.





*Крупскія навіны*

## Беларускі кетчуп

Пастаянна клапоцяцца аб абнаўленні асартыменту прадукцыі на Крупскім плодаагароднінным заводзе. Вось і сёлета тут асвоілі выпуск і вырабілі каля васьмі тон беларускага кетчупу на аснове мясцовай сыравіны: скарысталі вырабленае на прадпрыемстве яблычнае пюрэ. Да пюрэ дабавілі таматную пасту, араматызатары — і атрымалася цудоўная вострая прыправа.

Завадчане сумесна са спецыялістамі аб"яднання «Мінскплодагароднінагас» распрацавалі рэцэпт яшчэ адной навінкі — вітаміннай гарчыцы. Яна будзе вырабляцца таксама на аснове яблычнага пюрэ. Вытворчасць вітаміннай гарчыцы мяркуецца пачаць ужо ў лістападзе. Запасаў пюрэ хапае.

## Вырабы Тацняны Белай паехалі ў ЗША

Тацняна Якаўлеўна Белая апошнім часам працавала метадыстам Крупскай раённай бібліятэкі. І ўсё жыццё захаплялася ручной вышыўкай, вязаннем, шыццём. Нядаўна жанчына пайшла на заслужаны адпачынак і, што называецца, поўнасцю аддалася сваёй любімай справе. Вышытыя яе рукамі гладдзю і крыжыкам ручнікі, абрусы, сурвэткі, навалачкі, накідкі, звязаныя з мудрагелістых ўзораў карункі і прыложкавыя дыванкі, з выдумкай і фантазіяй пашытыя фартухі і падушкі не раз дэманстраваліся на розных выстаўках.

Сёлетняй восенню ў Тацняны Якаўлеўны адбылася знамянальная падзея: яе прынялі ў Саюз майстроў народнай творчасці Беларусі. І яшчэ адна навіна. Вышытыя рукамі гэтай майстрыхі абрус і ручнік адпраўлены ў ЗША на пастаянна дзеючую выстаўку народнай творчасці Рэспублікі Беларусь.

## Спяклі хлеб і ... спалілі

Работнікамі праваахоўных органаў Крупскага РАУС устаноўлены шматлікія факты розных афер і махінацый, якія мелі месца на Халопеніцкім хлебазаводзе. Па выяўленых фактах узбуджана крымінальная справа і вядзецца следства. Але ўжо у час расследавання работнікі міліцыі сутыкнуліся з фактам, які выходзіць за рамкі звычайнай логікі. Прама на тэрыторыі завода яны знайшлі яму, дзе была спалена, а затым закапана, як сцвярджаюць сведкі, цэлая партыя няякаснага хлеба.

Як паведаміў следчы Аляксандр Чуеў, калі раскапалі яму, то абвугленыя боханы былі яшчэ цёплыя. Паводле папярэдніх звестак, да гэтага і іншых негатыўных фактаў маюць дачыненне каля чатырох дзесяткаў работнікаў прадпрыемства. Аднак работа следчых органаў ускладняецца тым, што ніхто са службовых асоб, падазроных у злоўжываннях, не адхілены ад работы, таму некаторыя сведкі баяцца сказаць усю праўду.

*Мікалай ЧАЛЕЙ.*

## Порт для "Беларускалія"

Каля Мікашэвічаў, на прыпяцкім прычале "Вяленскія масты", калійнымі ўгнаеннямі, якія выраблены ў Салігорску, загружана першая баржа. Гэты порт абсталяваны на сродкі "Беларускалія" непасрэдна для пагрузкі яго прадукцыі. Прычым вялікі аб'ём работ выкананы ў сціслыя тэрміны, за чатыры месяцы.

Рака Прыпяць — найбольш кароткі і танны шлях, па якім калійшчыкі могуць дастаўляць угнаенні да Чорнага мора. У Мікашэвічах калій перагружаецца з чыгуначных вагонаў на баржы, з іх пасля падарожжа па Прыпяці — у трумы марскіх параходаў. Часова гэтыя баржы могуць выкарыстоўвацца і як склады на вадзе, што куды больш надзейна і выгадна, чым выгружаць угнаенні нават на невялікі тэрмін пад адкрытае неба. Тым больш што баржы — уласнасць "Беларускалія", пераабсталяваны для яго патрэб.

Рачнікі Гомельскага параходства мяркуюць за год перапраўляць да мільёна тон угнаенняў. А гэта — палавіна ўсёй прадукцыі "Беларускалія". Садзейнічае адгрузцы салігорскай прадукцыі сумеснае беларуска-амерыканскае прадпрыемства "Белэмпорт".

## А пачыналі з трафеяў

Паўвекавы юбілей рыхтуецца адзначыць Мінскі аўтарамонтны завод. Гэта галаўное прадпрыемства буйнога вытворчага аб'яднання "Аўтарамонт", якое мае ў рэспубліцы цэлую сетку заводаў: у Брэсце, Барысаве, Мазыры, Гомелі, Слоніме.

Пачатак яму паклалі сфарміраваныя летам 1944 года пяць брыгад рамонтнікаў, якія займаліся зборам і аднаўленнем трафейнай тэхнікі.

Мінскі аўтарамонтны валодае значным вытворчым патэнцыялам. Яшчэ ў 1990 годзе ён поўнасцю задавальняў патрэбнасці аўтамабільнага комплексу рэспублікі ў капітальным рамонце "МАЗаў" і "КрАЗаў", а ў апошнія гады пашырыў дыяпазон дзейнасці, і цяпер МАЗам яму перададзена вытворчасць шэрагу вузлоў асобных марак аўтамабіляў. На плечы Мінскага і Гомельскага аўтарамзаводаў ускладзена вельмі актуальная на сённяшні дзень задача — рэалізацыя праграмы пераводу карбюратарнага парка аўтобусаў на дызельнае паліва. Так што ў паўвекавы юбілей Мінскі аўтарамонтны ўступае з новымі перспектыўнымі пачынаннямі.

*Тацняна СМІРНОВА, БЕЛІНФАРМ.*

■ В партиях и движениях

## По партийным спискам

Партия Славянский собор "Белая Русь" поддерживает идею выборов по партийным спискам: избиратели должны голосовать за конкретные идеи конкретных партий. Выборы по территориальным округам, как показал опыт Российской Федерации, выгодны прежде всего номенклатуре и мафиозным структурам, имеющим огромные денежные средства.

Славянский собор "Белая Русь" считает, что в случае отказа от выборов по партийным спискам полностью теряется смысл введения многопартийной системы.

■ Здарэнні

## Пралетарыі аб'ядналіся

Раніцай 28 кастрычніка на вуліцы Ваўпшасава ў Мінску прахожыя маглі бачыць вялікае стоўпатварэнне рабочых завода шасцерань. Прычынай з'явілася зусім не эканамічнае становішча на гэтым прадпрыемстве, а канфлікт слесара 1-га цэха з работнікамі міліцыі. Гэта было яшчэ ў сераду. У 16.20 на прахадной адбылася сутычка слесара з работнікамі міліцыі, у выніку якой рабочага даставілі ў траўмапункт, які затым ён сам, без дазволу ўрачоў, пакінуў. На наступны ж дзень рабочы зноў звярнуўся да ўрачоў, якія выявілі чэрапна-мазгавую траўму. Ілжывая ж вестка аб тым, што слесар памёр, ускалыхнула завод.

Цяжка цяпер меркаваць аб тым, чыя праўда і хто вінаваты, аднак сваю салідарнасць рабочыя прадэманстравалі. Больш за гадзіну на магістралі быў перакрыты рух.

*БЕЛІНФАРМ.*

## Трагедыя ў Клінку

Вялікае гора напаткала сям'ю Маісеевых з калгаса імя Леніна Чэрвеньскага раёна. Учора раніцай узнік пажар у доме мясцовай даяркі. Яна пакінула двaіх маленькіх дзяцей без нагляду, а сама адправілася на ферму. Каб сагрэць малых, жанчына ўключыла электранагравальны прыбор, таму што запасу паліва не было. У выніку перагрэву прыбора загарэліся пасцельныя рэчы. Двое дзяцей задыхнуліся ў дыме.

*Фёдар САГАНОВІЧ.*

■ Заўтра — Дзень Памяці

# СА СВЕЧКАЙ У РУКАХ І З МАЛІТВАЙ У ДУШЫ

***Нашы продкі са старадаўніх часоў святкавалі Дзяды — Дзень памінання памёршых. Напярэдадні яны прыбіралі ў сваіх хатах. Затым хадзілі на могілкі. Гатавалі і святочныя стравы: бліны, куццю. Заўтра мы таксама будзем святкаваць Дзяды. А сёння наш карэспандэнт узяла інтэрв"ю ў ксяндза-магістра, настаяцеля мінскага касцёла Святога Сымона і Святой Алены /Чырвоны касцёл/ Уладзіслава ЗАВАЛЬНЮКА:***

— Многія людзі ў апошні час прыходзяць да нас упершыню. І прыводзяць іх у касцёл ... памёршыя сваякі. Чалавек скардзіцца, што пасля смерці маці / бацькі, сястры і г.д./ бачыць пра іх трывожныя сны. На душы ў яго — неспакой. Раю яму паставіць свечку, запісацца на за памёршых сваіх. Іх душы жывуць побач з намі.

Сёння, 1 лістапада, — Дзень Усіх Святых. А 2 лістапада ўсе родзічы павінны прыехаць да бацькоўскай хаты. Трэба пайсці на могілкі. Са свечкай, свянцонай вадой. Прачытайце малітву, няхай і сваімі словамі. Пастойце над магіламі знаёмых і нават незнаёмых людзей.





Імшу Святую (малітва за душы памёршых). І супакойваецца чалавек.

Вось і напярэдадні 2 лістапада ішлі і ішлі ў касцёл людзі, неслі запіскі з імёнамі памёршых сваякоў, знаёмых. Дарэчы, я заўжды гавару вернікам: уносьце ў памінанне і імёны памёршых сяброў, нават аднакласнікаў і аднакласніц. Ніхто не павінен быць забыты.

Такое ўжо гэтае свята — Дзень Памяці. Колькі існуе чалавецтва / ці то дзікае яно, ці то цывілізаванае/, столькі і помніць тых, каго не стала побач. У Святым пісанні таксама гаворыцца: памаліцеся

Не варта ў такі дзень ехаць на дачу. Тым больш —ператвараць яго ў п"янку. Гэта вельмі балюча.

Прыйдуць на могілкі ў Дзень Памяці і святары: каб асвяціць магілу, новы крыж, памаліцца.

У касцёле Святога Сымона і Святой Алены 2 лістапада адбудуцца тры імшы, тры набажэнствы. І потым на працягу тыдня ў касцёлах кожны дзень будуць праходзіць службы: святары і вернікі моляцца за ўсіх памёршых. Абавязкова ўспомняць тых, хто загінуў на франтах другой сусветнай вайны, у Афганістане, Курапатах, ахвяр усіх рэпрэсій.

У 19 гадзін 2 лістапада мінутай маўчання ў касцёле Святога Сымона і Святой Алены пачнецца вялікі канцэрт-рэквіем. На яго мы запрасілі Прэзідэнта рэспублікі, прадстаўнікоў Вярхоўнага Савета і Кабінета Міністраў. Так мы жадаем выказаць сваю ўдзячнасць ураду. Бо дзякуючы яму Дзень Памяці цяпер у Беларусі — выхадны. Не тое што раней: выскоквае чалавек з-за куста, ставіць свечку. І — уцякаць: каб ніхто нічога не ўбачыў.

На канцэрце-рэквіеме ў гонар памёршых на аргане, хорам хлопчыкаў, камерным і духавым аркестрамі будуць выкананы творы Баха, Бетховена, Моцарта. Думаю, тыя, хто прыйдзе ў касцёл, адчуюць, што ў аснове гэтай цудоўнай музыкі — духоўнасць чалавечая.

Чуў неяк такое выказванне: не той забівае, хто забівае, а той, хто забывае. І нам нельга забываць сваіх памёршых. Хто помніць тых, што ўжо не жывуць, мае багатую будучыню. І наадварот. У таго, хто ганьбіць магілы, нішчыць крыжы, будучыні няма.

*Запісала Наталля ТУМАР.*

**АД РЭДАКЦЫІ. Ксёндз-магістр Уладзіслаў Завальнюк праводзіць вялікую дабрачынную работу. У многім дзякуючы яго ініцыятыве ў беларускіх вернікаў наладжаны добрыя сувязі з рэлігійнымі арганізацыямі Германіі, Польшчы. Нядаўна ў адрас касцёла Святых Сымона і Алены паступіла першая гуманітарная дапамога. Прывезлі абсталяванне для гэтага, цяпер аднаўляемага, храма. А таксама — кухонныя рэчы: газавыя пліты, катлы і г.д. Не здзіўляйцеся, калі ласка. Усё тлумачыцца проста : яны неабходныя для спецыяльных харчовых пунктаў, якія плануецца арганізаваць у Мінску, — для тых, хто апынуўся на мяжы беднасці.**

**Ёсць дамоўленасць са сталічным гарвыканкомам аб тым, што такія пункты адкрыюцца ў кожным раёне горада, пры сталовых. Людзі, у якіх не хапае сродкаў для больш-менш нармальнага існавання, па спецыяльных талонах змогуць тут з"есці боршч ці суп, выпіць чаю. Плануецца і адкрыццё ў Мінску адной ці дзвюх гуманітарных аптэк. Дзядулі і бабулі, іншыя маламаёмныя грамадзяне змогуць бясплатна атрымліваць у іх неабходныя лекі.**

■ Сатырычным пяром

# Усё могуць каралі...

Расказваюць, чакаецца прыезд у Лагойск прадстаўніка арганізацыі, якой даручана захоўваць Кнігу рэкордаў Гінеса. Менавіта ў гэтым раёне, а больш дакладна, — у вёсцы Бяларучы, будзе зроблены новы запіс. Занясуць туды імя і прозвішча не настаўніка, які ўсё жыццё вучыў вясковых дзетак, не чалавека, які садзіў дубровы, не механізатара, без чыёй працы нікому з нас не пражыць. Такі гонар аказаны старшыні мясцовага сельскага Савета А.І.Дэйнеру.

— За якія заслугі? — звёўшы бровы, спытае строгі чытач.

Праясніць сітуацыю дапамагло пісьмо, якое прыйшло на мой паштовы адрас. А ў тым канверце — артыкул «Укралі тэлефонны нумар» з мясцовай раённай газеты «Родны край». І кароценькая прыпіска на асобным лісточку, выведзеная прыгожым почыркам незнаёмкі: «Дайце на старонках »Мінскай праўды" аб'ектыўную ацэнку такой махровай бяздумнасці..."

Яшчэ і яшчэ раз перачытваю артыкул у лагойскай раёнцы. А расказваецца там аб тым, як загадчыца Сёмкаўскай сельскай бібліятэкі Т.Пунтус, вярнуўшыся з чарговага водпуску, нікуды не магла дазваніцца: тэлефон маўчаў, нібы будучае куранятка пад шкарлупінай яйка. Звярнулася жанчына да кіраўніка паштовага аддзялення Г.І.Гуліс. Тая паабяцала разабрацца. І праз некалькі дзён высвятляецца, што тэлефонны нумар, які належаў бібліятэцы, па распараджэнню памянёнага вышэй старшыні быў перададзены нейкаму бізнесмену-дачніку. Анатоль Іосіфавіч растлумачыў сваёй падначаленай:

— У мяне няма чым плаціць за ваш тэлефон...

— Гэта ж не мой асабісты, — загаласіла ад крыўды жанчына. — Вечарамі, а таксама ў выхадныя дні (калі зачынена саўгасная кантора) з памяшкання бібліятэкі выклікалі «хуткую дапамогу», званілі ў радзільнае аддзяленне, пажарную часць. Ды ці мала з кім трэба звязацца людзям у экстрэмальныя хвіліны.

Аднак, як далей паведамляе культработніца, у нашага старшыні сельскага Савета свая, вельмі дзіўная логіка. Аб перадачы тэлефоннага нумара ён нават не паведаміў начальніку аддзялення сувязі, якая зусім выпадкова даведалася, каму ж цяпер належыць «украдзены» тэлефон. Гэта быў пераказ допіса, змешчанага ў газеце «Родны край».

А цяпер паразважаю над тым, што ж адбылося. Людзі, што з намі робіцца? Не магу адагнаць ад сябе рытарычнае пытанне. А робіцца тое, што нярэдка цвярозы розум успрыняць не хоча. Доказ таму — выпадак з тэлефонам. Ды дзе? У вёсцы Бяларучы, якая заняла дастойнае месца ў першай на Беларусі персанальнай энцыклапедыі пра народнага песняра Янку Купалу. У Бяларучах ён вучыўся ў двухкласным народным вучылішчы. Сярэдняй школе гэтай прысвоена імя Купалы. На яе будынку ўстаноўлена мемарыяльная дошка. Тут ёсць музей паэта, часта прыходзяць групы юных краязнаўцаў. Таму даю параду экскурсаводам: калі будзеце гаварыць аб тым, як бяларуцкая маляўнічая прырода станоўча ўздзейнічала на паэтычныя парасткі хлопчыка, не забудзьцеся паведаміць і аб тым, што ваш старшыня першы ў рэспубліцы з культасветустановы тэлефон перадаў дачніку. Колькі трэба закончыць інстытутаў і універсітэтаў, уключаючы і камерцыйныя, каб спазнаць сілу старшынёўскай дабрыні да чалавека з боку? І як жа трэба не паважаць бібліятэку, каб з яе так пасмяяцца.

На мой погляд, на такое здольны чалавек, які ніколі не бачыў у кнізе мудрага дарадчыка, для якога ці кніга, ці бервяно — адно і тое ж, бо абодва — з дрэва. Разумею, што параўнанне жорсткае, але інакш выказацца не магу.

Прызнаюся, гэты факт і цяпер не дае мне спакою. Кожную раніцу званю і пытаюся:

— Не прадалі яшчэ чыгунку з Мінска да Гарадзеі? Спытаеце, чаму? Там пахаваны мой бацька. А раптам нейкі шустры прадпрымальнік-абдзірала купіць гэты адрэзак чыгункі і паверне яе да дома сваёй цешчы, якая, скажам, жыве ў Любані ці Беразіно, Чэрвені ці Клецку, куды пакуль яшчэ не ходзяць паязды. Такое можа здарыцца, калі «дабрыня» Бяларуцкага сельскага Савета перадасца кіраўнікам-чыгуначнікам. І яшчэ штораніцы прыходжу на плошчу імя Якуба Коласа, каб сустрэцца з воблікамі народнага песняра, яго літаратурных герояў Дзеда Талаша, Сымона-музыкі, іншых, бо ў наш вар'яцкі час усяго можна чакаць ад такіх жа абдзіралаў-круцялёў: а раптам камусьці з наваспечаных бізнесменаў захочацца прыхватызаваць (літара «х» у гэтым слове зусім не лішняя) гэтую плошчу і ўзвесці там асабісты катэдж-фазэнду. Па сённяшніх нашых законах — рабі што хочаш, з крымінальнай вады можна выйсці сухім. Ва ўсякім разе, да апошняга часу выходзілі. Гэта цяпер ім прыпякло. Як паведаміла прэс-служба МУС Рэспублікі Беларусь, праверany ў рэспубліцы аб'екты будаўніцтва. У выніку выяўлена 711 фактаў злачынстваў у сферы індывідуальнай жылой забудовы, па якіх узбуджана 612 крымінальных спраў. Во распеpaзаліся хапуны-чыноўнікі, во абудзілася звярыная прагнасць усё цягнуць на свой двор, на сваю дачу. Цяпер яны бязвіннымі ягняткамі прыкідваюцца. Тэлефон, пра які я распавядаў у пачатку рэплікі, усяго толькі макулінка ў бязмежным моры безуладдзя. Але і яна ой як не ўпрыгожвае лагайчан. На гэтым закончу, трэба выбегчы на дарогу. Кажуць, ужо паказалася постаць чалавека з Кнігаю рэкордаў Гінеса ў руках. Апошняе з таго, пра што даведаўся ў той дзень: запіс у Кнігу Гінеса будзе рабіцца дзёгцем, каб ніякія вятры гісторыі, ніякія санцапёкі не вытравілі напісанае. Няхай новыя і новыя пакаленні ведаюць, да якой амаральнасці апускаліся дзялкі канца XX стагоддзя. Іх нават страшна будзе ўявіць. А мы з гэтымі дзялкамі адным паветрам дыхаем, ведаем іх у твар. На нашых вачах яны рабуюць рэспубліку, усіх нас. Мы маўчым, а яны ўсё больш і больш нахабнічаюць.

*Уладзімір КОБРЫН.*

■ Письмо в редакцию

# Сколько можно лгать?

В газете «Известия» за 27 октября 1994 года №207/24314 опубликован материал собственного корреспондента газеты «Известия» в Белоруссии А.Старикевича «Прием на высшем уровне получали в Белоруссии главари мафии». Поскольку приводимые в отношении меня «факты» являются клеветническими и продолжают линию, которую А.Старикевич проводит в отношении меня уже два года, я вынужден в очередной раз обратиться в народный суд. В очередной раз — потому, что неоднократно я уже разоблачал А.Старикевича как недобросовестного злопыхателя, и судебные инстанции подтверждали мою правоту. Материальные суммы, взысканные с А.Старикевича и газет, переводились в детские дома Минской области. Что ж, придется и в третий раз обращаться к правосудию. При этом сожалею, что на удочку недобросовестного журналиста попала такая уважаемая газета, как «Известия», которой не к лицу публиковать столь тенденциозные материалы. Придется и газете ответить по закону.

*Г.ДАНИЛОВ, депутат Минского областного Совета депутатов.*




## ВІНШАВАННЕ ПА ФАКСУ

Пра дабрыню і міласэрнасць цяпер гаворыцца шмат. Прытым на самых розных узроўнях — ля вясковай печы і ў Вярхоўным Савеце. А як жа на самай справе? Ці дабрэюць людзі? Калектыў Дулебскага дзіцячага дома не крыўдуе на адсутнасць увагі да сябе. Самыя цёплыя словы ўдзячнасці хочацца адрасаваць мінскаму дабрачыннаму цэнтру "Водгук", які ўзначальвае Жанна Анатольеўна Бяргові́на. У гэтай арганізацыі заўсёды сустракаюць нас з разуменнем, добразычліва. Толькі сёлета з дапамогай цэнтра мы змаглі аздаравіць у Германіі 20 дзяцей. Аб чуласці "Водгука" яскрава гаворыць такі факт. Наша выхаванка Алеся Лісава па накіраванню цэнтра адпачывала ў Германіі. У дзень нараджэння дзяўчынкі "Водгук" па факсу перадаў ёй віншаванне. Пагадзіцеся, такое не часта сустрэнеш у нашы дні.

Дзякуй табе, "Водгук", за шчырасць, дабрыню, разуменне! Калі б ні тэлефанаваў у гэтую ўстанову, мне заўсёды лагодны голас адказвае :" Дабрачынны цэнтр "Водгук" да вашых паслуг". Ад слоў такіх цяплее на душы.

*Мікола ГРУДЗІНСКІ, дырэктар Дулебскага дзіцячага дома Бярэзінскага раёна.*

## ЛЕЧАЦЬ І ТАБЛЕТКАМІ, І СЛОВАМ

Напэўна, толькі хворы чалавек можа па-сапраўднаму ацаніць працу людзей у белых халатах. Мы, напрыклад, удзячныя многім работнікам пратэзна-артапедычнага аднаўленчага цэнтра , што па вуліцы Адоеўскага, 10 у Мінску.

Усе добрыя справы, зразумела, пачынаюцца з "галавы" — генеральнага дырэктара цэнтра Івана Мікалаевіча Волкава і галоўнага ўрача Вольгі Аляксандраўны Логвінавай. Уважліва ставяцца да хворых загадчык аддзялення Міхаіл Уладзіміравіч Палойка і ўрач Уладзімір Іванавіч Дзічанкоў.

Сам прынясе і пакажа пацыенту, як надзець пратэзы, трэнер па абучэнню хадзьбе на іх Анатоль Аляксандравіч Смірноў. "Залаты" чалавек і ліфцёр цэнтра Іван Нічыпаравіч Валенцёнак. Ён дапаможа хвораму заехаць у ліфт на калясцы, выехаць з яго. Ніколі не скажа няветлівага слова.

Заўжды чакаюць пацыенты і прыходу санітаркі Веры Аляксандраўны Вішнеўскай: яна — вясёлая, добразычлівая.

Шкада, што не можам мы назваць прозвішчы ўсіх урачоў, медсясцёр, санітарак, работнікаў кухні аднаўленчага цэнтра, якім хочацца сказаць "дзякуй" за іх цяжкую і такую важную справу. Схіляем перад імі галаву!

*М.ТРЫБУШЭЎСКІ, Л.ДЗЕРАШ— усяго 4 подпісы.*

## МЯНЕ ЗАВАЛІЛІ ПЯСКОМ І ЦІНАЙ

Добра ведаю я прымаўку: "Абяцанага тры гады чакаюць". І ўсё ж /у свае 80 гадоў!/ спадзявалася, што асобы, надзеленыя ўладай, вырашаць маю, няхай і не дзяржаўную, праблему. Пісаў жа мне таварыш Козел — дырэктар Дзяржынскага гарадскога вытворчага аб"яднання жыллёва-камунальнай гаспадаркі 29 ліпеня 1992 года: маўляў, вывезем зямлю ў кастрычніку. Будзе выканаы і рамонт агароджы.

А справа вось у чым. У 1992 годзе чысцілі дно рэчкі, якая працякае побач з маім домам № 12 па вуліцы Камуністычнай. Увесь пясок, ціну, шкло, паваленыя дрэвы і іншы хлам звалілі на маім участку. Атрымалася куча памерам з трохпавярховы дом. Не вытрымала такіх адносін нават мая новая агароджа — згніла.

У той час якраз ішлі выбары кіраўнікоў мясцовай улады. Дык вось, каб я пайшла галасаваць, мне многа чаго наабяцалі. Але нічога ад таго, што я сумленна выканала свой грамадзянскі абавязак, не змянілася.

Пісала пісьмы ў выканком, жыллёва-камунальную службу. Ніхто мне нават не адказаў.

Дык хто і калі вывезе з майго ўчастка смецце, адновіць агароджу? Я ж жыву адна, агарод — мой карміцель. Ці ў Дзяржынску няма ўлад, няма людзей, якія ажыццяўляюць кантроль за выкананнем прынятых рашэнняў?

Цяпер у мяне засталася надзея толькі на газету.

*Ніна МАКОЎСКАЯ. г.Дзяржынск.*

## ПАКУЛЬ ЯШЧЭ "ЦЁПЛЕНЬКАЕ" МАРОЖАНАЕ ХУТКА БУДУЦЬ І БУЛАЧКІ

Кафэ з ласкавай назвай «Сняжок» працуе ў вёсцы Аношкі калгаса «Новае жыццё» Нясвіжскага раёна. Яго памяшканне прыгожа афармлена. Ёсць тэлевізар, музычная ўстаноўка.

У «Сняжку» прапануюць наведвальніку яшчэ «цёпленькае» марожанае, якое вырабляецца тут жа, на месцы. Да яго можна ўзяць розныя дабаўкі: сіроп, мёд, варэнне і г.д. У асартыменце — сок, кока-кола, цукеркі. Плануецца выпякаць у «Сняжку» і духмяныя булачкі.

Адкрыццё кафэ, і ў гэтым жа будынку — прамтаварнага магазіна, — заслуга кіраўніка гаспадаркі М.В.Саляніка і яе камерцыйнага дырэктара А.П.Бурака.

*Раіса ХВІР. Нясвіжскі раён.*

■ Лёсы людскія

## ПОЕЗД ЖЫЦЦЯ МІРГАЛІЕВЫХ

Яго жыццё — нібы цягнік, які пераадолеў далёкі шлях і, нарэшце, спыніўся на ціхім паўстанку. Вось ужо 18 гадоў Анас Галіевіч Міргаліеў жыве на Валожыншчыне ў Пяршаях. А родам ён з далёкай Башкірыі.

Парадніўся з Беларуссю, відаць, назаўсёды. А дапамагло ў гэтым светлае, трапяткое пачуццё да маладой сімпатычнай дзяўчыны з Бурбаўшчыны, якім калісь праніклася яго сэрца.

Рамантычная пара маладосці... Юнакі і дзяўчаты адпраўляліся абжываць неабсяжныя прасторы Казахстана, Сібіры, Забайкалля. Анас і Марыя пасля школы ў свой час таксама падаліся шукаць шчасця на Далёкі Усход, дзе затым і сустрэліся, стварылі сям'ю. Нарадзілася дачка, пазней — сын. А праз год сям'я рашылася на пераезд у незнаёмую для Анаса Беларусь. Жонка часцяком цікава і прачула расказвала мужу пра сваю Бацькаўшчыну, а таму Міргаліеў неяк неўпрыкмет для самога сябе закахаўся ў беларускія краявіды, не стаў больш пярэчыць жонцы, дапамагаў укладваць чамаданы...

Анас Галіевіч працуе трактарыстам у калгасе імя Карла Маркса, а жонка Марыя — даяркай. У гэтай простай сялянскай сям'і прывыклі ўсё рабіць так, каб аднавяскоўцы не маглі сказаць пра іх нічога кепскага.

Анас і Марыя таварыскія, сціплыя людзі. Яны ўмеюць раздзяліць чужую радасць, падтрымаць чалавека ў бядзе. Пазбягаюць усяго таго, што ганьбіць чалавечы гонар, і не шкадуюць сябе ў працы, бо ведаюць, што толькі яна ўзвышае аўтарытэт чалавека.

Сям'я Міргаліевых заслужыла павагу ў калег, аднавяскоўцаў. Таму, відаць, невыпадкова самі механізатары аднадушна параілі прадстаўніку прэсы сказаць добрае слова пра іх лепшага калегу Анаса Міргаліева.

У час «зялёнага жніва» Анас Галіевіч працаваў на самаходным кормаўборачным камбайне, убраў дзесяткі гектараў калгаснай сенажаці. «Старанны, талковы чалавек», — так ахарактарызаваў Міргаліева галоўны аграном гаспадаркі Генрых Маркавіч Арцішэўскі.

...Напружаная цяпер пара ў калгасных механізатараў. Кароткія і рэдкія хвіліны адпачынку. Восень. Час прыспешвае. А таму сёлета Анас Галіевіч так і не браў у рукі вудачку, хаця карціць пасядзець дзе-небудзь у зацішку пад вербалозамі ля ракі і, калі пашанцуе, падчапіць на кручок шчупака ці ляшча... Але што зробіш — не адпускаюць праца ў полі, хатнія справы. Праўда, бацькам заўсёды дапамагае малодшая дачка Наташа. Сын Васіль ужо служыць у арміі. А старэйшая, Святлана, жыве там, на Далёкім Усходзе. А таму не выключана, што аднойчы Міргаліевы зноў збяруць чамаданы, і іх светлы поезд зноў паімчыць на ўсход, да сваёй маладосці... Але на гэты раз, вядома, толькі пагасцяваць.

*Ірына ПАШКЕВІЧ.*

## ИЩЕТ ПОТОМКОВ АМЕРИКАНЕЦ





Уважаемая редакция! Я помогаю своему другу, американцу, который пытается разыскать родственников своего деда. Они, вероятнее всего, проживают в Минске или столичной области. Вот некоторые координаты.

Дед моего друга — Дэвид (Давид) Голенда родился 28 июня 1896 года. Полное русское имя его неизвестно. Несмотря на то, что в натурализационных документах, выданных 24 июня 1938 г., отмечено, что прибыл он из Польши, Дэвид Голенда всегда с гордостью утверждал, что он и его родственники — "белые русские" из-под Минска. Возможно, он вынужден был заявлять, что приехал из Польши, чтобы получить разрешение на въезд. В США он прибыл значительно раньше 1938 года.

В свидетельстве о браке Дэвид Голенда написал о своих родителях — Улине Ламке и Люке (Луке) Голенде — как о фермерах из Минска. У Дэвида Голенды были три сестры и брат, который также переехал в США.

Много раз Дэвид писал домой, своей семье в Минск, пока жил в городе Мансинге, штат Мичиган. Женился он в 1930 г. Умер в 1948 г. в возрасте 52 лет, оставив жену, дочь (мать моего друга) и двоих сыновей.

Мой друг и его родственники будут глубоко признательны, если читатели, владеющие информацией или документами, способными облегчить поиски потомков Дэвида Голенды, напишут мне по адресу: 246017, г.Гомель, проспект Ленина, д.30, кв.63.

С уважением

*Вячеслав РУДЧЕНКО.*

*НА СНИМКАХ:* Дэвид Голенда; его мать, три сестры, муж одной из них.

■ Удача

## АЙ ДА АННА!

**О том,что девчонки на уроках физкультуры с удовольствием гоняют мяч, известно всем. Но вот для меня новостью оказался тот факт, что в Борисовском районе проводятся официальные состязания по женскому футболу.**

Недавно и у нас состоялись такие соревнования. Согласно положению, игроки в поле /10 человек / должны быть представительницами прекрасной половины человечества. А вратарем может стать и лицо мужского пола. Причем любого возраста. В команде Метченской средней школы в роли голкипера выступал пятнадцатилетний Саша Кожевко. В команде соперников из Борисовской школы-интерната место вратаря занял взрослый человек, один из организаторов физкультурной работы в нашем районе. Он по спортивной профессии — футболист, а по специальности — вратарь. В недалеком прошлом выступал за команду высокого ранга, имеет соответствующую квалификацию: не то мастер спорта СССР, не то кандидат в мастера.

Несколько необычный подбор игроков дал пищу моему воображению, а разыгравшаяся фантазия моментально нарисовала картину, полную умиления: "Всемирно известный вратарь выступает за команду девочек!".

Но вот началась игра. Вначале "нам" забили гол. Затем пошли в наступление метченские девчонки. Последовали два точных удара. От таких только одно спасение — мастерство вратаря. К радости наших соперников, взятие ворот не состоялось.

Но игра все же сложилась так, что вскоре нам повезло: последовал хлесткий удар низом Анны Абрамович — и мяч оказался в сетке. Счет стал равный — 1:1. Ай да Анна! Ай да молодчина! Такое надолго запомнится. Позже смущенный мастер спорта говорил: "Никак не ожидал такого подвоха от такой "дробненькой" девчушки".

Так ученица шестого класса нашей школы стала героем дня. Судейской коллегией она была признана лучшей футболисткой этих соревнований, награждена Почетной грамотой и денежной премией.

Что ни говори, а славные все-таки ребята растут на борисовской земле!

*Михаил ВИНОКУРОВ, учитель Метченской средней школы Борисовского района.*

## "КАЛІГУЛА" ЦІ "ПРЫДУРКІ З БЕВЕРЛІ-ХІЛЗ"?

У дваццаці чатырох кінатэатрах Мінска круціцца звыш паўсотні поўнаметражных фільмаў. Сярэдняя запаўняльнасць залаў — пяць-дзесяць крэслаў са ста. А на праглядах беларускіх стужак і зусім — адно з тысячы. З дэманструемых фільмаў больш паловы зроблены ў Злучаных Штатах. Меншая частка — у Францыі, Італіі, Англіі, Індыі... Беларускіх і расійскіх карцін — адзінкі.

Дарэчы, у так званых цывілізаваных краінах працэнт амерыканскіх стужак на экранах даўно падабраўся да крытычнай адзнакі. Да гэтага ж ідзе і Беларусь. Сярод кінематаграфічнага смецця амерыканская частка мінскага рэпертуару перавышае 75 працэнтаў. Няўжо за гэта мы змагаліся?

"У беларускім кіно — крызіс!" — чуем мы ўжо некалькі гадоў. І даўно перасталі адчуваць у сувязі з гэтым сумным фактам якія-небудзь эмоцыі. Мы проста не ходзім у кінатэатры. Сядзім дома і глядзім па тэлевізары старое, добрае кіно з цудоўнымі, вядомымі ўсёй рэспубліцы акцёрамі.

Дырэкцыя ж кінатэатраў, імкнучыся да матэрыяльнай выручкі, паказвае оптам тое, што танней. Тым самым яна адпуджвае гледачоў і губляе больш, чым набывае.

Фатальнай памылкай, па-мойму, стаў дазвол прыватным фірмам займацца кінабізнесам. У сферу кінавытворчасці трапіла шмат выпадковых людзей, для якіх кіно — адна з магчымасцей "адмыць" грошы.

Выратаваць становішча, мяркую, можа Указ Прэзідэнта аб пратэкцыянісцкай, разумнай палітыцы ў айчынным кінематографе.

А пакуль для нас важнейшае з мастацтваў — амерыканскае кіно. Глядзіце "Амерыканскага дзядулю", "Моцны арэшак-2", "Нулявы допуск", "Прыдуркаў з Беверлі-Хілз", "Калігулу" і г.д.

*Вячаслаў ІШЧАНКА. г.Мінск.*

## УЗАКОНЕНЫ КРАДЗЕЖ

На гэтым судовым працэсе, які ў Салігорску вёў народны суддзя М.А.Жэчка, шматлікія вусныя абвінавачванні ў адрас тых, хто, карыстаючыся ўладай, будуе ўласныя катэджы, як кажуць, матэрыялізаваліся. Абраслі канкрэтнымі фактамі, лічбамі. Абвінавачванне сведчыць: падсудны Я.М.Крамнік, працуючы на пасадзе намесніка старшыні Слуцкага гарвыканкома і генеральным дырэктарам гарадскога вытворчага аб"яднання жыллёва-камунальнай гаспадаркі, сістэматычна атрымліваў будаўнічыя матэрыялы, якія належалі ЖКГ. І ўзводзіў з іх уласны катэдж.

Браў бясплатна. Усё адвезенае на дарагую яго сэрцу будоўлю Яўген Мікалаевіч даў указанне падначаленым адносіць на фонд вытворчага і сацыяльнага развіцця аб"яднання ЖКГ. Дакладней — гарадскога бюджэту. А гэта — дзве сотні лістоў шыферу і сотня кілаграмаў ацынкаванай сталі, каля 9 тысяч цаглін і дзесяткі розных пліт перакрыцця, фундаментных блокаў, газавая калонка і кацёл электрычны, сталь ліставая і ванна... Са жніўня 1992-га па верасень 1993 года Я.М.Крамнік незаконна атрымаў будматэрыялаў і іншых матэрыяльных каштоўнасцей на 4.213.290 рублёў. Два гады назад, згадзіцеся, гэта былі вялікія грошы.

Для будаўніцтва патрабавалася праектна-каштарысная дакументацыя. Я.М.Крамнік заказвае яе ў Слуцкім праектна-вытворчым прадпрыемстве. Рахунак-фактура за выкананыя работы выстаўлена ЖКГ. Якая і аплаціла яго. Была спроба перакласці на плечы падаткаплацельшчыкаў і першапачатковы ўзнос Я.М.Крамніка за зямельны надзел у суме 300 тысяч рублёў. Ды ўмяшаліся абласныя кантралёры, не дазволілі давесці задуманае да канца.

На судзе Я.М.Крамнік вінаватым сябе не прызнаў. Рабіў наіўны выгляд, заяўляў:

— Я не краў! Усе матэрыялы, абсталяванне браў законна, адкрыта, па дакументах. І бясплатна. Бо было адпаведнае рашэнне нашага прафсаюзнага камітэта дапамагчы мне ў будаўніцтве катэджа.

Аказваецца, усё проста: дастаткова дамовіцца з людзьмі са свайго акружэння, і можаш браць на мільёны народных грошай. Заўважым, Яўген Мікалаевіч не бяздомны, перад гэтым па невысокай цане прыватызаваў нядрэнную кватэру. Законна. І ўчастак, тлумачыць ён, не сам захапіў, яму ўлады выдзелілі... Але суддзю ў першую чаргу цікавіла іншае:

— Вы былі намеснікам старшыні гарвыканкома. Той жа самай уладай. А згодна з законам, гарадская камунальная маёмасць юрыдычным, фізічным асобам можа перадавацца толькі па рашэнню сесіі гарсавета, які з"яўляецца заснавальнікам ЖКГ. Прафком арганізацыі, якой вы кіравалі, зусім не меў права выдзяляць вам бясплатна матэрыялы, абсталяванне. Чаму вы іх бралі?

Я.М.Крамнік зноў прыкідваецца прасцячком:

— Я не ведаў гэтага. Ды і не мне аднаму на будаўніцтва сродкі выдзяляліся: і галоўнаму інжынеру ЖКГ, і кіраўніку ЖЭУ...

— На падставе якіх законаў? — дапытваўся суддзя.

— Не ведаю. Так рабілі ўсе. Ну і мы... Але ж потым кошт скарыстаных матэрыялаў я кампенсаваў.

Сапраўды, унёс грошы. Праўда, значна пазней, калі іх адчувальна абясцэніла інфляцыя. І пасля таго, як катэджам заняліся следчыя органы. А да гэтага Яўген Мікалаевіч проста ўдзельнічаў у вялікім хапуне. Бо ў той час, ва ўмовах безуладдзя, вельмі многія без аглядкі цягнулі да сябе ўсё, што пад рукі трапляла. Бясследна знікалі не толькі блокі, пліты, цэгла...

### МАЗУТ АД МАРЫНЫ

Побач з Я.М.Крамнікам на лаве падсудных сядзеў і кіраўнік МП «Юніком» М.В.Вяршок. Па ўказанню Яўгена Мікалаевіча гэтаму малому прадпрыемству для набыцця мазуту з гарадскога бюджэту летась было пералічана каля васьмі мільёнаў рублёў. Абласная асацыяцыя «Камунальнік» падкінула яшчэ больш за 30 мільёнаў. Але як ні стараліся кантралёры, следчыя, ніякіх дакументаў на многія сотні тон мазуту, якія быццам былі куплены, дастаўлены ў Слуцк, яны не знайшлі. У адрас «Юнікома», як сведчаць чыгуначнікі, увогуле ні аднаной цыстэрны з палівам не паступала. М.В.Вяршок настойліва даказваў, што яны ішлі прама ў адрас кацельні.

— Пакажыце хоць адзін дакумент, што вы сапраўды дастаўлялі ў Слуцк мазут, — прасіў суддзя.

— Іх няма, — чулася ў адказ. — Восем цыстэрнаў, памятаю, у Асіповічах мне прапанаваў нехта Уладзімір Іванавіч, чыгуначнік. Прозвішча і месца работы не ведаю. А яшчэ мазут даставаў праз Руслана Кабзоева. Марына прадавала яго. Хто яны, дзе працуюць — таксама не ведаю... Ну а 13 мільёнаў «Камунальніку» мы вярнулі.

Дзіву даешся такім тлумачэнням. Купіць сотні тон дэфіцытнага мазуту, які паступае з-за мяжы канкрэтна ў чыйсьці адрас, без дакументаў, — выходзіць, гэтак жа проста, як набыць мех бульбы на рынку. Папрасіў незнаёмую Марыну, тая прадала... Тлумачэнні, разлічаныя хіба што на наведвальнікаў дзіцячага садка. Да таго ж, «Юніком» не меў ліцэнзіі на закуп нафтапрадуктаў. М.В.Вяршок тлумачыць усё проста: зімой горад мог застацца без паліва, яго запрасілі ў гарвыканком, папрасілі: «Выручай, Мікалай!». Якія ўжо тут ліцэнзіі, дакументы! Ён і выручыў. Крыўдзіцца: вось табе і падзяка — наручнікі...

— Усё ж, чым вы можаце даказаць, што на тыя мільёны купілі мазут? — дапытваўся М.А.Жэчка.

— Тым, што ён паступіў у мазутную гаспадарку. Гэта павінна быць зафіксавана ў журнале ўліку.

Бяспройгрышны ход. Бо журнал прасвятліць сітуацыю ўжо не можа: чыясьці рука ў ім загадзя вырвала патрэбныя старонкі. А загадчыка склада, які запаўняў тыя старонкі, дасталі мёртвым з пятлі. Ні сведак, ні дакументаў...

Хтосьці можа сказаць: знікла не бочка паліва, можна зрабіць разлікі і даказаць, скарысталі тыя сотні тон мазуту ці не. Але ў слуцкай кацельні за год згараюць тысячы цыстэрнаў паліва. І спісаць дзесятак-другі зусім не праблема: дастаткова грэць ваду да пэўнай тэмпературы, а ў дакументах фіксаваць значна вышэйшую. Строгага кантролю ў кацельні няма.

— А чаму «Юніком» пералічыў тры мільёны рублёў ПМК спецыяльна для ўзвядзення катэджа Крамніка? — пытае суддзя.

— У канцы лета ён папрасіў нас: дапамажыце, хлопцы, мне катэдж пабудаваць! — адказаў М.В.Вяршок. — Ну мы і далі Крамніку крэдыт. А ён да апошняга часу чамусьці ўсё цягнуў, не вяртаў грошы...

Вось так проста, без лішніх фармальнасцей могуць вырашацца фінансавыя праблемы паміж добрымі людзьмі, надзейнымі, праверанымі партнёрамі. Асабліва калі яны маюць доступ да дзяржаўных сродкаў...

### ЗЛАЧЫНСТВА І ПАКАРАННЕ

Працэс у Салігорску над слуцкімі махінатарамі працягваўся амаль паўмесяца. Выслуханы сведкі, прааналізаваны шматлікія дакументы. Суд прызнаў Я.М.Крамніка вінаватым у злоўжыванні ўладай і службовым становішчам, у крадзяжы дзяржаўнай маёмасці ў буйных памерах. І вызначыў пакаранне — чатыры гады пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці. Акрамя таго, ён пазбаўлены права на працягу пяці гадоў займаць адказныя пасады ў органах мясцовага кіравання.

Пры вынясенні прыгавору былі ўлічаны станоўчыя характарыстыкі з месца работы, стан здароўя Я.М.Крамніка, тое, што ён добраахвотна кампенсаваў кошт незаконна скарыстаных матэрыялаў, абсталявання. Вядома, мера пакарання — чатыры гады пазбаўлення волі — абавязкова выкліча самыя розныя меркаванні. Але прыгавор яшчэ не канчатковы, ён можа быць перагледжаны вышэйшымі судовымі інстанцыямі ў той ці іншы бок. Так што спяшацца з катэгарычнымі вывадамі не трэба.

Прыгавор М.В.Вяршку не выносіўся. Бо ў справе з «мазутнымі» мільёнамі так моцна ўсё перакручана, заблытана, на судзе даюцца такія смешныя тлумачэнні, што спатрэбілася дадатковае расследаванне.

Застаецца толькі спадзявацца, што будзе ўстаноўлена ісціна, вінаватыя панясуць пакаранне. Так абавязкова павінна быць. Бо рабаванне народа, дзяржавы не можа працягвацца бясконца.

*Уладзімір БЫЧЭНЯ.*

# КАТЭДЖ, МАЗУТ, СМЕРЦЬ

**— усё пераплялося там, дзе запахла дармавымі грашыма**

■ Зіма стукае ў дзверы

## СКРАЗНЯКУ Ў ПАМЯШКАННЯХ НЕ БУДЗЕ

### Затое ў кармавым балансе дзірак хоць адбаўляй

**Галоўнага заатэхніка калгаса імя Леніна І.М.Дубатоўку знайшоў на цэнтральнай ферме "Омельна". Не, ён не праводзіў ніякіх нарад з жывёлаводамі, не даваў распараджэнняў будаўнікам, якія рамантуюць адно з памяшканняў фермы. Займаўся ён разам з галоўным ветэрынарным урачом ды яшчэ адным калгаснікам нязвыклай, на першы погляд, для яго работай — укрываў саломай караняплоды.**

— А хіба гэта не падрыхтоўка да зімоўкі грамадскага статка? — заўважыў Іосіф Міхайлавіч. — Людзі заняты на ўборцы караняплодаў, а камусьці трэба і тут працаваць.

Падрыхтоўка жывёлы да стойлавага ўтрымання ўключае шырокае кола пытанняў. Але галоўныя сярод іх — забеспячэнне статка кармамі і падрыхтоўка памяшканняў да зімы. Што датычыць апошняга, то гэтае пытанне вырашаецца. На думку спецыяліста, зіма зняначку жывёлаводаў не застане. У той жа час ён ведае, што і расхалоджвацца нельга: восень — пара капрызная. Днём можа ісці дождж, а ноччу прыцісне мароз. Ды так, што тыдзень-другі не адпусціць. Таму работы ў жывёлагадоўчых памяшканнях вядуцца фарсіраванымі тэмпамі. Праўда, у нейкай ступені іх стрымлівае адсутнасць некаторых матэрыялаў.

Вось, напрыклад, у кожным памяшканні на фермах трэба шкліць вокны. Шкла сёння нідзе не знайсці. Ёсць выйсце: аконныя праёмы можна «залатаць» поліэтыленавай плёнкай. Але ў наяўнасці яе няма — як у калгасе, так і на базе райаграпрамзабеспячэння. Добра, што старшыня праўлення калгаса У.П.Варашкевіч «падабраў ключык» да мясцовых кааператываў.

Дробязі засталіся ў памяшканнях ферм «Клятное» і «Любячка». На першай ферме ў адным з валоўнікаў трэба замяніць некалькі метраў кармушак, на другой — некаторыя дзверы. Ёсць у калгаса лес, ёсць свая пільня, ёсць і піламатэрыялы ў дастатку.

Найбольшы аб"ём работ трэба выканаць у памяшканнях для дойнага статка фермы «Омельна». Таму невыпадкова тут штодзённа працуе калгасная будаўнічая брыгада з пяці чалавек. У адным памяшканні завяршаецца замена падлогі. У другім неабходна на трэць замяніць столь. І ў першую чаргу гэта трэба зрабіць у малочным пакоі, бо там заўжды людзі.

Як бачым, падрыхтоўка памяшканняў да зімы вядзецца. А вось з забеспячэннем грамадскага статка кармамі — праблема. Лічыцца нармальным, калі для стойлавага перыяду на ўмоўную галаву жывёлы назапашана па 19 — 20 цэнтнераў кармавых адзінак. Прытым — разнастайных кармоў. Паводле разлікаў галоўнага заатэхніка, на зіму будзе нарыхтавана толькі па 12 — 13 цэнтнераў кармавых адзінак. Гэта — 60 працэнтаў да патрэбнасці. Няма ніякіх крыніц для папаўнення. Выбар фуражу вельмі бедны. У прыватнасці, сенажу нарыхтавана 1.637 тон, сіласу — 1.200, сена — 764 тоны. Ужо сёння І.М.Дубатоўка гаворыць, што ў рацыёне дойнага статка наогул не будзе сена (яно пойдзе толькі маладняку). Двойчы ў суткі жывёла будзе карміцца крыху падсаложанай саломай (пры беднай ураджайнасці збажыны на фуражныя мэты выдзелена 50 працэнтаў зерня ад патрэбнасці, і гэта пры тым, што гаспадарка не выканала дзяржзаказ па яго продажу ), ды адзін раз будзе «ласавацца» сенажом. Дарэчы, і саломай гаспадарка забяспечана толькі на 45 працэнтаў. Кармы дзесьці давядзецца купляць. Хоць бы тую ж салому, бо яе ніхто не «падорыць»: у падобным становішчы сёлета апынуліся з дзесятак гаспадарак раёна.

Невыпадкова ў гэтыя дні ў гаспадарцы ўсе сілы кінуты на ўборку караняплодаў. Кожны гектар дае па 200 цэнтнераў. Лічы, каля 800 тон караняплодаў пойдзе на корм жывёле. (15 працэнтаў валавога збору іх выдзяляецца калгаснікам, якія займаліся вырошчваннем). Як ні кажы, а караняплоды ўсё ж будуць значнай падтрымкай у кармавым балансе.

Зімоўка грамадскага статка чакаецца складаная. Гэта разумеюць у калгасе ўсе: ад кіраўніка, спецыялістаў да радавога жывёлавода. Таму ў гэтыя дні робіцца ўсё магчымае, каб хоць нейкім чынам аблегчыць працу людзей, захаваць пагалоўе.

*Мікалай ГРЫГАРОВІЧ. Пухавіцкі раён.*

## Фотарэпартаж



# ТАМУ ШТО ЁН ЯК ЖЫВЫ...

...Ля прылаўка сталічнага магазіна «Падарункі» чатыры хлопчыкі выбіралі сувенір. Доўга раіліся, патрымалі мо з дзесятак цацак, нарэшце папрасілі выпісаць ім ляльку «Дзед-Барадзед».

— Чым жа яна вам спадабалася? — цікаўлюся ў хлопчыкаў.

— Дык дзед зусім як жывы, — бясхітрасна адказвае адзін з іх, — нібы з «Калыханкі».

І сапраўды: лапці, сялянская вопратка з вышыўкай, саламяны капялюш — акурат такія, якія некалі насіў у вёсцы мой дзед.

Праз некаторы час мне пашчасціла пабываць на Маладзечанскай фабрыцы мастацкіх вырабаў. Менавіта тут і «нарадзіўся» той «Дзед-Барадзед». Сустрэўся з начальнікам планава-эканамічнага аддзела Аленай Леанідаўнай Гуд і папрасіў расказаць, як нараджаюцца такія прыгожыя цацкі.

— Спачатку, — кажа Алена Леанідаўна, — давайце разбяромся, што такое «прыгожая цацка». На думку некаторых, гэта выраб, які размаляваны кідкімі малюнкамі і яркімі фарбамі. Гэта, на наш погляд, пустышка. Яна не нясе аніякага сэнсу, не мае накіраванасці. Хаця часам можа мець поспех на рынку, у гандлёвых кропках.

Мы ж ідзём іншым шляхам. Стараемся ў кожным вырабе, няхай у самым простым, нешта адлюстраваць. За аснову бяром сваё, нацыянальнае, беларускае, прытрымліваемся традыцый, фальклору. Ды і пры вырабе карыстаемся сваім: лён, дрэва...

Свой расказ Алена Гуд прадоўжыла ў музеі фабрыкі. Брала ў рукі цацку, звяртала ўвагу на тую ці іншую дэталь: вышыты паясок, які некалі насілі нашы дзяды і прадзеды, распісаны арнаментам кіёчак у руках старога...

Цікаўлюся, на каго разлічаны гэтыя цацкі, ці толькі на дзяцей.

Алена Леанідаўна бярэ са стэнда новыя сувеніры і прапаноўвае даць ім назву. З языка так і злятаюць: «Іванка-зух» — першы хлопец на вёсцы ліха іграе на балалайцы, «Пачатак кахання» — сарамліва сядзяць побач, апусціўшы вочы долу, хлопец і дзяўчына, «Старасць — не радасць» — цяжка абапіраецца на кіёк дзядуля.

На першы погляд, стварыць такую цацку-сувенір даволі проста. Галоўнае, каб быў матэрыял. Але Алена Леанідаўна праводзіць па вытворчых участках, і мы бачым, як напружана працуюць работнікі фабрыкі Алена Тарлецкая, Леакадзія Пакладок, Соф"я Калачнік і іншыя, стараючыся падабраць лялечны ўбор, патрэбную стужку да спадніцы, касу з ільну да прыгажуні дзяўчыны. «Падбіраем усё гэтае ўбранне, — расказваюць яны, — і ўспамінаем нашу маладосць, нашых маці, бабуль, стараемся захаваць традыцыі. Для нас лялькі — гэта наша мінулае, якое трэба адраджаць».

Добра сказана: захоўваць, адраджаць. Не ведаючы мінулага, не будзеш ведаць гісторыю, шанаваць нашу спадчыну. А яна вельмі багатая, ёсць чым ганарыцца.

На фабрыцы выпускаюць пасцельную бялізну, абрусы, ручнікі. Можна было б усю гэтую вытворчасць паставіць на канвеерныя рэйкі, механізаваць. Але, кажуць на прадпрыемстве, мы страцім сваю самабытнасць, народныя традыцыі. Таму і працэс вырабу тут амаль што ручны. Асабліва пры вышыўцы. Тыя ж абрусы, напрыклад, карыстаюцца вялікім попытам.

Дарэчы, а куды ідзе прадукцыя Маладзечанскай фабрыкі мастацкіх вырабаў? Раней не было б вялікай памылкі сказаць: у многія рэспублікі Саюза. Цяпер «геаграфія» звузілася.

— Але попыт на нашу прадукцыю, — кажа Алена Гуд, — даволі вялікі. Сувеніры мы пастаўляем ва ўсе куткі Рэспублікі Беларусь. На спартыўных спаборніцтвах, на кірмашах, сустрэчах дэлегацый самы жаданы прыз-сувенір — нашы вырабы. Асабліва ж дарагім сувенірам лічацца нашы лялькі ў земляко ўбеларусаў, тых, хто жыве далёка за межамі рэспублікі. Так што можна сказаць без перабольшання: нас ведаюць паўсюль.



А яшчэ вось аб чым падумаў. Нехта сцвярджае: калі наша эканоміка працягвае каціцца ўніз, не да прыгожага, не да цацак. Пагадзіцца з гэтым ніяк нельга. Не хлебам адзіным жыве чалавек. І дзякуй Богу, што ёсць яшчэ такія прадпрыемствы, як Маладзечанская фабрыка мастацкіх вырабаў, якая не дае ў гэты цяжкі час адчуць яшчэ і духоўны голад.

*Яўген ТУРАЙКЕВІЧ.*

**НА ЗДЫМКАХ:** прадукцыя фабрыкі; інжынер-тэхнолаг Таццяна **Царэнка** ў асартыментным кабінеце; раскройны ўчастак; майстар Валянціна **Бохан** /злева/ і мадэльер-канструктар-мастак Алена **Калініна** з узорамі новых швейных вырабаў.

*Фота Анатоля БАСАВА.*



## Семінары

# ХТО ЎМЕЕ ВЕСЯЛІЦЦА, ТОЙ І ГОРА НЕ БАІЦЦА

Адбыўся двухдзённы семінар-практыкум для метадыстаў-культарганізатараў. З дакладам «Аналіз арганізацыі агляду клубных устаноў на лепшую пастаноўку работы з сем'ямі і роля культарганізатараў у правядзенні сямейных святаў, вечароў адпачынку" выступіла дырэктар абласнога цэнтра народнай творчасці С.С.Іванова. «Рэжысура гульнева-забаўляльных праграм у народным свяце, абрадзе» — такая тэма выступлення выкладчыцы Беларускага універсітэта культуры Н.І.Гуд. Аб новых формах далучэння да культасветработы мнагадзетных сем"яў гаварыла вядучы метадыст Беларускага інстытута праблем культуры К.Л.Лабчэўская.

Цікавымі былі выступленні метадыста абласнога цэнтра народнай творчасці К.М.Пятровіч, кіраўніка фальклорнага калектыву «Калыханка» Л.М.Рыжковай, кіраўніка ўзорнага тэатра гульні «Скамарохі» Г.Г.Дзіско і іншых. Быў арганізаваны прагляд і абмеркаванне відэастужкі «Абласны агляд-конкурс гульнева-забаўляльных, абрадавых праграм».

Удзельнікі семінара наведалі Дзяржаўны тэатр музычнай камедыі, цэнтр дзіцячай творчасці Першамайскага раёна г.Мінска.

## Ідэя, пошук, прадпрымальніцтва

# Унікальныя лекі з Барысава

***На Барысаўскім заводзе медыцынскіх прэпаратаў асвоены выпуск каля паўтары сотні назваў самых разнастайных лекавых сродкаў. Іх асартымент увесь час абнаўляецца. Вось і зараз у адным з цэхаў прадпрыемства вядзецца наладка абсталявання для вытворчасці новых прэпаратаў: полікапрану і плёнкі лекавай з лінкаміцынам, аналагаў якім няма не толькі ў Беларусі, а і на ўсёй тэрыторыі былога Саюза.***

### АДКРЫЦЦЁ

Яшчэ ў 80-я гады супрацоўнікі лабараторыі фізічнай хіміі і мадыфікацыі цэлюлозы навукова-даследчага інстытута фізіка-хімічных праблем Белдзяржуніверсітэта пад кіраўніцтвам доктара хімічных навук прафесара Ф.М.Капуцкага /зараз Фёдар Мікалаевіч рэктар універсітэта, акадэмік АН Рэспублікі Беларусь/ звярнулі ўвагу на тое, што акісленая аксідам азоту цэлюлоза можа быць выдатным носьбітам лекавых сродкаў самых розных класаў. Пасля шматлікіх даследаванняў атрымалі новы прэпарат — полікапран, які хутка і эфектыўна спыняе крывацёк практычна ў любых органах і тканках чалавека. На працягу двух гадоў праводзіліся клінічныя выпрабаванні ў васьмі клініках. У тым ліку ў Ваенна-медыцынскай акадэміі імя Кірава, Усесаюзным навуковым цэнтры хірургіі, Цэнтральным НДІ гематалогіі і пералівання крыві Міністэрства аховы здароўя былога Саюза, Інстытуце хірургіі імя Вішнеўскага, навукова-даследчым інстытуце нейрахірургіі імя Бурдэнкі, а таксама ў Мінскай абласной клінічнай бальніцы. На падставе станоўчых вынікаў фармкамітэт Міністэрства аховы здароўя былога Саюза даў дазвол на клінічнае прымяненне і прамысловы выпуск новага лякарства.

### ВЫБАР НАДЗЕЙНАГА ПАРТНЁРА

На той час, а гэта быў пачатак 90-х гадоў, у Беларусі пачалі фарміравацца навукова-тэхнічныя праграмы. У адну з іх і трапіў полікапран. Яго вытворчасць меркавалася наладзіць на заводзе горнага воску, што ў Пухавіцкім раёне. СКБ інстытута ядзернай энергетыкі АН Беларусі распрацавала і вырабіла унікальнае абсталяванне, у тым ліку і для атрымання акісленай цэлюлозы, выпуск якой таксама планаваўся на тым жа заводзе горнага воску.

Аднак гэтаму прадпрыемству не так проста было наладзіць стэрыльна чыстую вытворчасць, паколькі там ніколі падобнай тэхналогіяй не займаліся. Таму ішоў час, а справа не рухалася з месца. Унікальнае абсталяванне стаяла ў цэху... без даху.

Распрацоўшчыкі лякарства звярнуліся на Барысаўскі завод медыцынскіх прэпаратаў. Дырэктар прадпрыемства В.В.Драніца даў згоду на супрацоўніцтва. За кароткі час тут рэканструявалі памяшканне былога ампульнага ўчастка, хаця аб"ём работ быў велізарны.

Цяпер усе праблемы вырашаны. Устаноўлена і вядзецца наладка унікальнага абсталявання, на якім у лістападзе плануецца вырабіць доследную партыю новага прэпарата. А ў суседнім цэху наладжваецца вытворчасць акісленай цэлюлозы.

### ЛЯКАРСТВЫ ЗАЎТРАШНЯГА ДНЯ

Участак фасоўкі полікапрану будзе працаваць па сумешчанай схеме: на суседнім участку зманціравана і рыхтуецца да запуску абсталяванне па вырабу другога унікальнага прэпарата — плёнкі лекавай з лінкаміцынам, распрацаванай вучонымі з той жа лабараторыі навукова-даследчага інстытута фізіка-хімічных праблем. Яго можна назваць лякарствам заўтрашняга дня. Пры імплантацыі лекавай плёнкі з лінкаміцынам у жывы арганізм яна накладваецца на рану ў выглядзе сурвэткі, у тым ліку і на ўнутраныя органы. Пры гэтым плёнка выдзяляе антымікробныя рэчывы і забяспечвае антымікробнае ўздзеянне на арганізм у зададзеным рэжыме працяглы час, пакуль поўнасцю не растворыцца за 20—28 сутак. Гэта выключае ўзнікненне гнойна-запаленчых працэсаў пры зажыўленні ран.

Даследаванні паказалі, што полікапран і плёнка з лінкаміцынам валодаюць яшчэ і стымулюючым дзеяннем, значна паскараюць працэс зажыўлення ран. Прымяненне плёнкі з лінкаміцынам рэкамендуецца хворым з паталогіямі жоўцекамянёвай хваробы, вострага халецыстыту, цырозу і раку печані, а таксама з траўмамі апорна-рухальнага апарату, гнойна-запаленчымі працэсамі і гэтак далей. Пярвічная апрацоўка агнястрэльных, нажавых і іншых ран плёнкай з лінкаміцынам садзейнічае хуткаму спыненню крывацёку і прадухіляе развіццё гнойна-запаленчых працэсаў. Дазвол фармкамітэта Міністэрства аховы здароўя былога СССР на клінічнае прымяненне і прамысловую вытворчасць плёнкі дае права прымяняць яе, як і полікапран, на ўсёй тэрыторыі былога Саюза.

Прынцып вытворчасці плёнкі з лінкаміцынам, як паказваюць даследаванні вучоных, можа быць выкарыстаны і для атрымання шэрагу новых прэпаратаў, паколькі, як ужо адзначалася, акісленая цэлюлоза можа быць добрым носьбітам лекавых сродкаў розных класаў. Па аналогіі з лінкаміцынам у арганізм хворага можна «загружаць» іншыя лякарствы і яны раўнамерна ў зададзеным рэжыме, будуць рабіць лекавае ўздзеянне на працягу адпаведнага перыяду. Маюцца канкрэтныя распрацоўкі вучоных у гэтым кірунку.

Вучонымі распрацаваны і шэраг прэпаратаў на аснове крухмалу для лячэння сардэчна-сасудзістых захворванняў. Так, напрыклад, новы прэпарат нітраміл валодае магутным антыарытмічным дзеяннем. Да гэтай знаходкі беларускіх вучоных праяўляюць вялікую цікавасць вядомыя замежныя фірмы, што займаюцца вытворчасцю сардэчных сродкаў. Ёсць і некаторыя іншыя цікавыя напрацоўкі, таму цяпер вучоныя лабараторыі сумесна з тым жа Барысаўскім заводам медыцынскіх прэпаратаў працуюць над стварэннем пілотнай устаноўкі па вытворчасці субстанцый новых лякарстваў з тым, каб пасля клінічных выпрабаванняў перайсці на больш маштабныя аб"ёмы іх прамысловай вытворчасці. Адным словам, сумеснымі намаганнямі сталічных вучоных і барысаўскіх вытворцаў на справе ажыццяўляецца ідэя перспектыўнага развіцця айчыннай фармакалогіі, наладжваецца вытворчасць такіх прэпаратаў, якія маглі б прадстаўляць нашу рэспубліку на сусветным узроўні.

*Мікалай ЧАЛЕЙ.*

# Вінаград на Смалявіччыне? Ёсць!

**Не збіраюся рабіць ніякіх грунтоўных даследаванняў. Проста хачу падзяліцца з чытачамі цікавымі фактамі.**

Дык вось, «піянерам» вырошчвання вінаграду на Смалявіччыне быў перасяленец з Саратаўскай вобласці Аляксандр Пятровіч Рахтанаў, які даўно памёр. А ў свой час да яго прыязджала нямала аматараў прыроды і журналістаў, каб паглядзець на вінаградную лазу і спелыя гронкі ў невялікім агародчыку. Справа першаадкрывальніка знайшла прадаўжальнікаў. Не раз бачыў на прыпынку электрычкі «Дамашаны», як дачнікі-мінчане неслі ў кошыках са сваіх агародаў спелы вінаград. Аб сваіх поспехах у гэтай справе яны гатовы былі расказаць кожнаму...

У час майго наведання роднай вёскі Батурынка на той жа Смалявіччыне сусед бацькоў, далёкі мой сваяк Аляксандр Сцяпанавіч Яскевіч прапанаваў:

— Пачастуйся вінаградам з майго палісадніка.

Я даўно не заходзіў да суседа і быў вельмі здзіўлены, убачыўшы, што ўся «парадная» сцяна яго абкладзенай цэглай хаты абвітая вінаграднай лазой. Ягад на ёй было шмат, і даволі буйных. Праўда, крыху кіславатыя, але, магчыма, так і было прадугледжана пры вывядзенні гэтага сорту.

А пачаў сусед з таго, што калісьці даўно ўзяў у сваіх колішніх суседзяў Лойкаў, прадпрымальных, працавітых людзей, чаранкі вінаграду, трымаў зімой у звычайнай бутэльцы з вадой і перасадзіў вясной у глебу.

Цяпер на той сядзібе жыве іншы гаспадар, а вось вінаградная лаза засталася. Развёў яе і яшчэ адзін сусед маіх бацькоў — Васіль Сцяпанавіч Букаціч.

На жаль, не радуе маіх землякоў надвор'е: то ўдараць восенню раннія маразы, то ўсё залье дождж, то засушыць улетку. Але ж вось прыжылася тут дзівосная экзатычная культура — вінаград. І не апошняя роля ў гэтым належыць сапраўднай любові мясцовых жыхароў да працы, іх жаданню мець нешта незвычайнае на сваім агародзе, падворку.

*Сцяпан БУКАЦІЧ.*

ВЕРИТЬ — НЕ ВЕРИТЬ?

# Тарелка упала и разбилась

## Говорят, Пентагон скрывает подробности катастрофы пришельцев из космоса. Между тем "тарелочки" продолжают посещать Землю...

**Уфологи из Запорожья рассказали недавно в местной печати о посадке НЛО в... — надо же! — Космическом районе города. Приземлялся, мол, там яйцеподобной формы аппарат высотой четыре, диаметром три метра. Пришельцы, а замечены они были вдвоем, достигали 2,5 метра...**

По словам очевидцев, они видели НЛО и над днепровским островом Хортица (довольно большим, кстати, и густонаселенным), и над центральным городским пляжем. Наблюдать объект удавалось, как правило, не более минуты.

Очевидно, что видели прилеты этих НЛО не только рядовые граждане, но и военные. Только они молчат. И все чаще мне вспоминается о "сенсации века" — катастрофе корабля пришельцев из космоса в США. Три уфологические организации (МУФОН, КУФОС и ФУФОР) опубликовали декларацию, призывающую правительства ряда стран, и прежде всего США, раскрыть засекреченные материалы об инопланетянах с тем, чтобы человечество наконецто "узнало правду". Распространенный в печати документ назывался "Росвеллская декларация", так как именно в маленьком местечке Росвелл почти полвека назад разыгралась вроде бы настоящая космическая трагедия.

Когда в начале 1947 года проживающий в Нью-Мехико крестьянин Мак Брацель рано утром вышел во двор, чтобы после грозовой ночи проверить своих овец, он обнаружил необычные огромные обломки. Они проделали в земле ровные борозды и лежали вокруг в огромном количестве. Подобрав несколько кусочков, он решил показать их своим соседям и шерифу Джорджу Вилкоксу. Тот связался с авиабазой в Росвелле. Вот что писали потом и поныне пишут некоторые американские газеты.

**Прибыв на место, военные оттеснили полицейских, оцепили район плотным кольцом, а затем вывезли все, что там было найдено. Обломки доставили в Росвелл, затем самолетами Б-29 и С-54 переправили в Вригт-Филд в Дайтоне, штат Огайо.**

**На базе в Росвелле в то время размещался 509-й элитарный полк стратегических бомбардировщиков, впервые оснащенных атомными бомбами. Утром 8 июля 1947 года командир этого авиационного полка полковник Вильям Бланхард приказал дать в печать сообщение о том, что обнаружены части "разбившейся тарелки" (НЛО). В этот же день свыше 30 вечерних газет США поместили его в разделе сенсационных новостей...**

Через несколько часов из бюро генерала Роджера Ромэя, командира 8-й авиационной бригады, размещенной в форте Ворт, в Техасе, и находящейся за 700 с лишним километров от места падения тарелки, последовало второе сообщение. В нем говорилось, что сенсация дутая и "не стоит выеденного яйца", что на самом деле полковник Бланхард допустил "невероятную глупость", выдав обычный воздушный шар за летающую тарелку.

Люди, которые совместно работали с Вильямом Бланхардом и хорошо его знали, утверждают, что это был серьезный и деловой человек, а не какой-то дуралей, как его пытались представить во втором сообщении. Если бы он не был уверен в том, что невероятное и драматическое событие произошло с разбившейся "тарелкой", то никогда бы не пустил такое сообщение в печать. (Кстати заметить, в последующем Бланхард дослужился до четырехзвездного генерала и заместителя начальника штаба ВВС США).

Первый свидетель, который принимал участие в исследовании и который нашел в себе мужество назвать свое имя, был полковник контрразведки 509-го бомбардировочного полка в Росвелле Жозе Марсель. Он являлся компетентным специалистом и был одним из двух офицеров, первыми прибывших на место аварии. В одном из интервью в 1979 году Марсель твердо заявил: "...это был не воздушный шар". Рассказывая о найденном материале, он заметил: "Он не хотел гореть... Это вещество почти ничего не весило и было не толще фольги, применяемой при упаковке сигарет. Когда я попробовал его согнуть, оно не гнулось. Тогда мы попытались пробить в нем дыру при помощи 8-килограммовой кувалды. Однако ничего из этого не получилось — материал не поддавался".

Трудно представить себе, чтобы человек с такой подготовкой и квалификацией, как Жозе Марсель, являвшийся офицером контрразведки единственного в то время в мире авиаполка, имевшего на вооружении атомные бомбы, мог бы спутать заурядный метеорологический воздушный шар с чем-то иным. Его вывод: "Это оставшиеся части корпуса неземного происхождения".

Лишь в 1992 году пролился свет на истинную причину появления второго сообщения для прессы от военных, отменявшее первое. Перед своей смертью генерал Томас де Босе, дабы очистить душу перед Господом и людьми, признался в том, что он сам лично в 1947 году на авиационной базе 8-й бригады в Техасе принял по телефону приказ генерала Клеменса Макмиллана из Вашингтона о необходимости сокрытия факта "падения тарелки".

В 1990 году заговорил и генерал Артур Е.Эксон, который в то памятное время, будучи лейтенантом, участвовал в испытании материалов частей тарелки в лаборатории Вригт Филд под Тайтоном в штате Огайо. По его утверждению, были проведены все возможные испытания: химические анализы, проба на разрыв, сжатие, изгиб и т.д. Все специалисты, принимавшие участие в них, "единогласно пришли к заключению, что эти материалы пришли на Землю из космоса".

Свидетельские высказывания Гленна Денниса также вызывают мало сомнений. В те далекие времена Гленн, еще совсем молодой человек, работал в морге и обрабатывал трупы умерших. Однажды, как только он вошел в госпиталь, встретил знакомую медсестру. Ему хотелось с ней поговорить, однако в тот же момент он был замечен военными полицейскими, которые, не церемонясь, вытолкали его из здания.

На следующий день Гленн встретился с медсестрой в городе. Она рассказала ему, что происходит в госпитале. Девушка была всегда очень спокойным и уравновешенным религиозным человеком, а в тот момент пребывала в состоянии, близком к нервному припадку. Медсестра описала, как ей приказали помогать двум врачам, которые, применяя аутопсию, обрабатывали несколько... небольших нечеловеческих тел. Она видела: одно тело было в неплохом состоянии, а другие уже расчленены, поэтому четко можно было заметить анатомические отличия от человеческих тел. Стоял отвратительный запах...

Большинство свидетелей до сих пор испытывает страх перед наказанием со стороны властей. Не только Гленну Деннису, но и другим угрожали физической расправой. По словам членов семьи шерифа Вилкокса, ему угрожали, что он и вся семья "будут уничтожены", если он хоть когда-нибудь попытается рассказать о том, что видел в Нью-Мехико.

Военные целую неделю продержали под арестом и крестьянина Мака Брацеля и освободили лишь после того, как он поклялся хранить тайну.

**Есть что скрывать не только Пентагону. В самом деле, не может быть, чтобы "энлонавты" избрали сферой своих интересов только территорию США. Подтверждением этой мысли могут быть материалы, опубликованные в 1991 году министерством обороны Бельгии, с показаниями радаров двух самолетов Ф-16 бельгийских ВВС, которые имели приказ проследить за невесть откуда взявшимся НЛО. В подборку вошли и данные четырех наземных военных радаров, следивших за космическим кораблем инопланетян, а также многочисленные заявления граждан и полиции. Тогда радары одной из военно-воздушных баз Бельгии зафиксировали неопознанный летающий объект. В воздух поднялись истребители-перехватчики. Как только истребители приблизились к НЛО, он резко ускорил свое движение и легко оторвался от преследователей. Неизвестный объект двигался с невиданной скоростью. Бельгийские эксперты из НАТО уверены, что объект был явно внеземного происхождения.**

Нет пока ни одного, даже полуофициального, сообщения о крушении НЛО над территорией СНГ. Известен лишь один случай, который с натяжкой можно отнести к этой категории. В начале 80-х годов в Омской области разбился некий летающий объект. Военные моментально оцепили большую территорию и долго вывозили оттуда обломки. При авиакатастрофах подобные мероприятия выглядят куда скромнее...

По некоторым сведениям, в КГБ якобы были люди — целые команды, которые занимались исключительно катастрофами неопознанных летающих объектов. Значит, кто-то наверняка кое-что на сей счет знает? Но тайна сия пока за семью печатями...

Еще один известный рассказ об НЛО, разбившемся на Шпицбергене, несколько раз приводился в печати как пример "сокрытия правды властями". Однако правительство Норвегии этой истории тоже не подтвердило.

**Василий ЗАКРЕВСКИЙ.**

### ОТ КОМИССИИ "ФЕНОМЕН":

***Серьезный ученый народ пытается свести феномен НЛО к формуле: мол, в экономически развороченном, неустроенном обществе (а это, к сожалению, касается сегодня всех стран СНГ) люди всегда охотно верят во всякие небылицы и чертовщину. Так ли это? США, Бельгия, Голландия — страны вполне благополучные в социально-экономическом плане, а поди ж ты, там тоже время от времени поднимается шум по поводу летающих тарелок, энтузиасты требуют от своих правительств рассекретить документы о катастрофах "космических пришельцев". Так что не все так уж просто.***

***Спорить с приверженцами существования НЛО бесполезно. Судя по данным ВЦИОМ, в их реальность верит примерно треть (33,9 процента) опрошенных; 26,7 процента — решительно не верит; 39,4 процента респондентов затрудняются ответить на этот вопрос определенно. Как видим, отношение ко всем НЛО как к иллюзиям или просто домыслам не устраивает как минимум треть людей. Значит, в этой области нужны конкретные серьезные исследования, которые бы помогли рассеять весьма плотный туман.***

"Труд".

